# Андрэй Храпавіцкі —

**нарадзіўся ў г. Глыбокае, у сям'і настаўніка. Вучань 11 класа глыбоцкай СШ №3. Дасканала валодае англійскай мовай, захапляецца сучаснай музыкай, перапісваецца з меламанамі розных краін свету. З'яўляецца шчырым прыхільнікам беларускага Адраджэння. У сваіх вершах Андрэй разважае на тэмы Жыцця і Смерці, думае аб лёсе роднага горада і сваёй краіны. Ен заклікае нас паразважаць з ім разам. Паспрабуем?**

### А 7-Й ГАДЗІНЕ Ў ПАНЯДЗЕЛАК

Поўная кнігарня вільгацьцю дажджу,
Што звонку шчэ імжыць па вулках.
Багата мінакоў у ранішнім сутоньні
І дзесьці пад страхой грыміць пярун.

Зірнуць з вакна на невясёлы брук,
Угледзецца ў твары незнаёмых,—
Пабачыш тых, што ўтвараюць горад,
Што йдуць у шапік, каб прагледзець
друк...

Усё пачнецца спакваля;
Шчэ дасыпаюць крамы й кавярні...
Цікава зазірнуць у іх прывіды-мроі:
Што мрояць прыталкі альбо сьцяпа?

А парасоны мокрыя, нібы паток,
Ільюцца па ўласных справах...
Ці гэта чорныя шыкоўныя абцасы,
Пакінуўшы свой дом, як док,

Імчаць у нядобры шэры якіян?..
Не дапамогуць тут ядвабныя
спадніцы,
Ні чорныя, як стрыжань, нагавіцы,
Бо мінакі есьць мінакі...

### РОДНАЯ МОВА

Я ўначы йду па могілках
І бачу белую сьцень
А, гэта мова родная
Забыты ўсімі мярцень

Ніхто не паложа ёй кветкі
Ужо нават магілу зьнясьлі
Ляжыць наша слова прыгожае
у самым глыбокім віры

А мы ўсе такія разумныя
Кампутар як частка рукі
І нашыя зоркалёты
Імчаць нібыта перуны

А хто вы? — спытае паляк нас
Расійцы, — адкажам мы,
Бо хутка, мажліва, ня будзе
Зусім беларускай зямлі

А тыя, хто застануцца
Клясьці будуць вечна й ушчэнт
Таго страшнога манкурта
[redacted]

Я ўначы йду па могілках
І бачу белую сьцень
А, гэта мова родная
Забыты ўсімі мярцень

### UNDERGROUND

Народ трывае не адно стагодзьдзе,
Трывае доўга. Перамена — транс.
І ў гэтым сумным і звычайным
асяродзьдзі
Жыве гвалтоўны дэкаданс.
Так, есьць свой сюр, парасткі дадаізму,

Вэрлібры ганарыста ўзьнімаюць сьцяг.
За незалежнасьць, супраць камунізму
Страсае underground наш абсяг.

***

Гадзіньнік рукі закуў у паручнікі,
Нагавіцы — ногі ў кайданы,
Словы цьвёрда зьляпілі злучнікі,
Сшытак зьнітаваў лісты.
Вушы чуюць ток-шоў пра знадабьбе,
Вочы бачаць на рынку спакмень,
Мары-мроі насычаны Францыяй,
Усё іншае — быццам сьцень.
Гмахі ціха пагойдваюць сьценамі,
сонца цэдзіць сьвятло праз вакно.
Безнадзейнасьць вуліцы Леніна
Мэлядраму стварае з кіно.
Цёплы дзень сурочыў надвор'е,
І пад вечар грымнуў гром.
Прахалодны з Балтыйскага мора
Вецер-катар крануў мой дом.
Жыцьцё сьветлае вурдалакам
Ужо даўно працуе ў душы
Жылы крэсьляць у сэрцы знакі
Узбаламуціць ваду ў віры.

### 3-Я СУСЬВЕТНАЯ ВАЙНА

Наканаваны лёс, якога няма,
Мне даравана праўда з манаю.
Я тлумлю сам сябе дзень ада дню,
Часам блытаю радасьць з журбою.
Сонца палам сваім мне навейвае ноч...
Я ня ведаю — будзе заўтра,
Ці ў сьпіну ўвап'ецца чужое лязо;
Кожны дзень — непрыемная аўра.
Кожны дзень мне ўсьміхаецца раньне
з гаўбца.
Горад ужо адышоў ад мрояў.
Цела ціха і боязна прагне канца,
А душа — спаліць свае строі.
Цішыня мільёнаў у тлуме сваім,
Чэргі ў крамах за ежай ці мылам...
А мо' раптам узаўецца ў неба дым,
Людзі мігам усе зробяцца пылам.
Зьнікнуць нацыі, помнікі й гарады,
Больш ня будзе ў парляманце спрэчак,
І згараць у агні дарагія крыжы,
Зьнікнуць больш непатрэбныя рэчы.
Больш ня будзе вайны, што катуе
зямлю,
Мы забудзем пякельныя сваркі,
Мы забудзем грахі, мы ня ўспомнім
ману.
Больш ня будуць над намі дойч-маркі.
І калі мы аддзячым за нашы грахі,
Бог нас верне на тую плянэту,
Дзе мы з пылу збудуем сьвятыя
крыжы
І адродзім, што звалі светам...

## Казка пра загінуўшы народ

Усякіх людзей ёсць на свеце: адны — працавітыя, другія — лепш за ўсіх песні спяваюць, трэцім характэрна ваяўнічасць. Чула — некалі жыў бяскрыўдны народ, не было ў яго ворагаў, хто б ні завітаў у хату — сябрам завуць. Не крыўдзіліся гаспадары на свавольствы гасцей, што гаварыць! Было, нават іконы з кутаў павыносяць, а назаўтра ж паклон ім насустрач дадуць.

"Хай іх, — спакойна махалі рукамі людзі. — Не абяднеем, абы сонейка свяціла, ды паветрам лёгка дыхалася".

Празналі аб такіх дзіваках суседзі, ды пачалі паціху адразаць зямельку з-пад іх.

"Нічога — усім месцейка хопіць".

Не маглі надзівіцца чужакі, разбіраў іх драпежніцкі азарт. Адабралі хаты, скацінку, палеткі — мала! Паветра забрудзілі, сонейка засланілі — а ўсё цярпенне ў бяскрыўдных не канчаецца.

Раззлаваліся, пачалі пытаць людзей, чаму такімі на свет нарадзіліся? Старых, дзяцей на допыты забіраюць, а тыя і самі не разумеюць — ЧАМУ?

Знайшоўся адзін: "Ды не трэба нам усё гэта: Забірайце палацы, стравы, адзенне — дробязь нікчэмная! Чым больш страціцца на зямлі, тым больш на небе знойдзецца... Пакіньце толькі нас у спакоі, душы нашы не мучайце".

— Ага-а? Вось па гэта ж якраз мы й прыйшлі!

## БАЦЬКАЎ ЗАПАВЕТ

Яблык ад яблыні не далёка закоціцца, ды не ў тым справа... Якія розныя яны на адным дрэве родзяцца! Адзін аж свеціцца, дэманструючы сваю годнасць, другі ў самым зародку зморшчыцца, зчарвее. Так і ў сем'ях дзеткі.

Паміраў бацька — наказваў: "Слухайце дзеці малодшага! І ты, Міхалка-дурань, і ты, Сцёпка-злодзей, ты, — Мар'я-гаспадынька, ты — Ганна-весялуха — усе яго слова трымайцеся!"

— Як жа так, не справядліва! — спыталі браты. — Ён меншы з нас, ды і нічым, акрамя дудкі, не валодае!Хош бы каго са старэйшых...

Не паспелі адказ атрымаць — памёр бацька. Так прыйшлося слухацца, напавер.

Сем'я невялічкая, ды спрыт у кожнага свой. Жонак, мужоў папрыводзілі, гаспадарку наладзілі. Аруць-сеюць, ды багацеюць. Міхал нават паразумнеў, Сцяпан красці кінуў.

Але ўпусціў нехта "вужаку" ім! Сталі па кутах шапярыць: " Не справядліва! Старэйшыя мы, работнікі ўмелыя, майстры слаўныя, а слухаць меншага вымушаны, які акрамя дудкі нічога ў руках не трымаў".

Выказалі браты злакрыўду, выгнаць — не выгналі — сам з хаты пайшоў...

Навалілася на іх пагуба: сварацца, спрачаюцца. Рабіць работы некалі — чубы адзін аднаму рвуць, кулакі з пахмелля чэшуць. Цесна ў роднай хаце стала, хоць і паменела іх. Гоняць брат брата з двору.

Збяднелі, жабракамі па свеце пайшлі і нікому не прыйшлося дадумацца, чаго бацька сказаць не паспеў.

"Не па ўзросту розум дасцца, не араным вымяраецца".

**Л.АНДЗІЛЕЎКА.**

## *Падзяка*

На выданне газеты "Вольнае Глыбокае" ахвяравалі:
**Кучыц Іван Іванавіч** (прадпрымальнік, Глыбокае) — 480 тыс. руб.
**Кастусь Акула**, пісьменнік, Таронта — 50$
Вялики и шчыры дзякуй.

**Рэдакцыя.**

## *Навошта мова?*

**Вынікам сумна вядомага ва ўсім сьвеце рэферэндуму сталася ў нас тое, што цяпер на кінаафішах пішуць па-руску. Але, спадарове, мы ж не галасавалі за скасаваньне беларускай мовы! Бальшыня галасавала за наданьне ёй роўнага статуса з рускай. У праўнай дзяржаве паважаюць правы меньшыні. Урэшце, хто ў нас падумае пра школьнікаў зь беларускіх клясаў, якіх ужо досыць шмат? Кінаафіша для іх — адзін зь немалаважных прыкладаў выкарыстаньня роднае мовы.**

**"Вольнае Глыбокае" прапануе пісаць назвы фільмаў на мове карэннага насельніцтва. А ў выпадку няжкасьцяў з успрыманьнем падаваць пераклады на рускую мову. Калі гэткі варыянт падасца некаму непрымальным, то тады, каб зьдзейсьніць тут роўны статус, пісаць трэба на двух мовах. Але ці ня будзе гэта абсурдам?**

## *Дарагая "памяць"*

**Адбылося доўгачаканае: Глыбоцкі райвыканкам з дапамогай выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" парадаваў нас выхадам у свет Кнігі "Памяць" Глыбоцкага раёна. Прыгожае, змястоўнае выданне — сапраўдная энцыклапедыя Глыбоччыны. Але — кошт. 26 тысяч рублёў — грошы зараз немалыя, і гэта з улікам скідкі, зробленай мясцовымі ўладамі для глыбачан ( у Менску тая ж кніга каштуе каля 70 тыс. рублёў). Што зробіш — закон рынку: "Памяць", нарэшце, ёсць, ды не кожнаму па кішэні.**

## *Каб не забываліся...*

**Апошнім часам Глыбокаму шанцуе на помнікі. Ужо дзейнічае велічны мемарыял у Барку, па вул. Савецкай паўстаў абеліск у гонар Глыбоцкіх падпольшчыкаў, упарадкаваны магілы ахвяр яўрэйскага гета. І, нарэшце, адноўлены па цікаваму праекту помнік вызваленцам Глыбокага ў Парку Перамогі: дзве бронзавыя постаці па баках мармуравай калоны з выявай таксама бронзавай Нікі — багіні Перамогі. Адмысловая работа, і, відаць, дорага каштавала гарадскому бюджэту? Але знаўцы нас супакоілі — дэфіцытны каляровы метал узяты з помніка Леніну, які ў 1991г. так і не паспеў "прапісацца" на былой Базарнай плошчы, таму, відаць, і постаць партызана (у цывільным, злева) нечым нагадвае Ільіча напярэдадні Кастрычніка. Каб не забываліся!**

## *Канструктыўная прапанова*

**У Глыбоцкіх крамах з'явілася навінка: "імпартовае" піва з гатычнага стылю этыкеткай за даволі танны кошт. Пры бліжэйшым разглядзе, аднак, аказалася яно вырабам менскай фірмы "Крыніца" з зусім беларускай назвай "Дражня". Прадукт, дарэчы, добрай якасці і з прыемным смакам. А ці дачакаемся мы калі "фірмовага" Глыбоцкага піва? Няўжо мы горшыя за менчукоў? Як патрыёты горада, мы гатовыя хоць зараз распрацаваць узор этыкеткі...**

## Моўнае адраджэнне паводле Власта

Нядобразычліўцы беларускай мовы ці проста недасьведчаныя людзі закідаюць нам:" якая гэта мова — мешаніна рускай, польскай і ўкраінскай" і ўвогуле "нічога талковага на ёй ня скажаш". На ўсё гэта глыбачане маюць гонар падаць важкі аргумант — "Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" свайго земляка Вацлава Ластоўскага. Ён быў апантаным зьбіральнікам і творцай роднага слова. У самім Глыбокім Власт (псэўданім Ластоўскага) запісаў слова "капсыль", што азначае кішэнь; шмат словаў занатаваў у вандроўках па вёсках нашага краю. Перад усім ён дбаў пра чысьціню роднае мовы. "Мова, перапоўненая чужаземнымі словамі, зьяўляецца ізалятарам культуры ад народных масаў", — піша аўтар у прадмове да сваёй працы. На жаль, у часе дзікунскага бальшавіцкага панаваньня сапраўднае беларускае слова гвалтоўна ізалявалася ад грамадства, нават слоўнікі ляжалі ў спецсховішчах. Цяпер вакол працы Ластоўскага вядуць спрэчкі мовазнаўцы. Значыцца, ён жыве. У ім ёсьць ня ўсе патрэбныя нават у побыце словы, але затое паказаны накірунак іх пошуку. Таму ён мае вялікую пазнавальную моц і будзе натхняць яшчэ не адно пакаленьне аматараў ды спецыялістаў.

Паслухайма, а мо' й будзьма ўжываць:

вітальня — прихожая, спакмень — предмет, простапад — перпендикуляр, моўніца — трибуна, засьня — абажур, ходнік — тротуар, спогудка — оркестр, душнік — вентилятор, галамень — ствол, домнеўка — гипотеза, спокіў — жест, еміны — продукты, сабетнік — эгоист, лацьвей — легче, прыталка — прилавок, ценкі — тонкий, ставец — табурет, жарсьць — страсть, адзежня — гардероб, прыкась — претензия, балёнік — воздушный шарик, шпуляк — мяч...

**АМАТАР.**




"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік — Глубоцкая РАДА БНФ

в.а рэдактара Уладзімір Скрабатун
Выдавец Барыс Хамайда

Наклад 499
Замова —
Падпісана да друку 1995 г. у 17.15
Кошт па дамове
Набрана, звярстана і надрукавана ў друкарні імя Канстанціна Астрожскага